Бібліятэка Мінскага гарадскога аддзялення
Саюза пісьменнікаў Беларусі

Маргарыта Латышкевіч

# Там, дзе сэрца

*Вершы, проза*



Мінск
«Колорград»
2020

УДК 821.161.3-1
ББК 84(4Беи)-5
Л27

Серыя заснавана ў 2011 годзе



**Латышкевіч, М. Ю.**

Л27 Там, дзе сэрца : вершы, проза / Маргарыта Латышкевіч. — Мінск : Колорград, 2020. — 88 с. — (Бібліятэка Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі).

ISBN 978-985-596-479-8.

Гэта кніга вершаў. І прозы.

Бо, напэўна, у жыцці так і бывае: вершы мяшаюцца з прозай, праўда з выдумкай, радасць з сумам.

З драбочкаў успамінаў выкладзена каляровая мазаіка — вершамі і сціслымі празаічнымі замалёўкамі. Можа быць, асобныя драбочкі прыгадаеце як нешта сваё, перажытае. Можа быць, у асобных пазнаеце сябе.

А можа, і не.

Тэксты тут — быццам дзверы кватэр у шматпавярховіку. За кожнай — свая гісторыя. Нечы дом.

**УДК 821.161.3-1**
**ББК 84(4Беи)-5**

**ISBN 978-985-596-479-8**

# Праз будзённае — да галоўнага

Маргарыта Латышкевіч — загадка, неспадзяванка, таямніца і, безумоўна, бясспрэчны талент у нашай сучаснай маладой літаратуры. Яна незвычайная, асаблівая, самавітая як у паэзіі, так і ў прозе, аб чым засведчылі яе папярэднія кнігі і публікацыі ў літаратурна-мастацкіх выданнях.

Пацвярджае маю ацэнку яе творчасці і гэтая кніжка, з якой дыхае, пазірае жыццё — не аздобленае, не прыхарошанае, рэальнае, жывое, убачанае шчырым пісьменніцкім позіркам.

Нібыта збоку і ў той жа час пільна ўзіраецца пісьменніца ў пад’езд дома, яго вокны, падваконні, прыступкі, сцены, дзверы кватэр, пляцоўкі... Заўважае, чуе і ўяўляе кожную рысачку часу і чалавека ў ім.

Назіральнасць пісьменніцы то ўсмешліва-цікаўная, то чулліва-занепакоеная, то кпліва-усцешлівая. І гэта не простая занатоўка рэчаіснасці, звычайнага нашага быцця, а вытанчана-паглыблены позірк на сутнасць простых рэчаў, у якім месціцца пошук духоўнага, мудрага, вечнага.

За ўсімі будзёнымі рэаліямі чалавечага жыцця аўтар кнігі прыадкрывае яго галоўную сутнасць, загадкавасць і наканаванасць лёсу чалавека, сэнс яго існавання на Зямлі. А яно якраз і складаецца найчасцей са звычайных дэталяў, маленькіх рысак, паўсядзённых драбочкаў, штохвілінных

крокаў, якія зліваюцца ў цэласную карціну, назва якой — жыццё.

Цікавая, нестандартная і сама пабудова кнігі. Філасофскія, яскравыя мастакоўскія назіранні дапаўняюцца вершамі, якія ўражваюць паэтычнай і чалавечнай спеласцю душы аўтара гэтай кнігі: чытаеш і хочаш зноў і зноў перачытваць, вымалёўваць, уяўляць тое, што тояць, напрыклад, наступныя радкі:

Палёсткаў смех дарылі мне
старэнькія герані…

Неба падае
Проста ў лужыны,
І дрыжаць аскялёпкі блакіту…

Кроплі стукаюць у шкло,
Разбіваючы люстра сну…

Сухіх лістоў ласкавыя далоні
Пяшчотна гладзяць нас па валасах…

Крочыць дождж па засмужаным горадзе,
крочыць і плача…

Поўня ўзыдзе крывавым вокам…

Пырскі салонай вады — зоры…
Белыя ветразі — белыя крылы…

Ноч, як рыба, хапае ротам
Месяцовую светлаваду…

Лета коціцца па асфальце…

Такая паглыблена-чуйная назіральнасць, такое праніклівае, паэтычнае бачанне свету характэрныя адметнаму таленту і найшчырай душы пісьменніцы, удумлівага мастака слова.

Веру, што з-пад пяра Маргарыты Латышкевіч выйдзе яшчэ нямала нечакана-трапяткіх і хвалююча-яркіх твораў, як гэты.

Так яно і будзе.

**Міхась Пазнякоў**, *лаўрэат*
*Нацыянальнай літаратурнай*
*прэміі Беларусі і многіх іншых*
*Рэспубліканскіх і Міжнародных*
*літаратурных прэмій.*

# Адрасная шыльда

# Ганак

Сталінкі з высокімі столямі ды гулкімі пад'ездамі, цесныя маласямейкі-хрушчоўкі, амбіцыйныя шматпавярховікі-васьмідзясятнікі, з якіх месцамі абвальваецца каляровая плітка, ды нават мегасучасныя шматкватэрныя слупы, што падпіраюць аблокі. Розныя — але падобныя.

Падобныя ў тым, што ніводзін з гэтых будынкаў не зробіцца домам у самым важным сэнсе гэтага слова, пакуль не працягнуцца да яго дрыготкія нітачкі з грудзей жыхароў. Працягнуцца — прывязваючы, прыварожваючы, прымацоўваючы. Пад гулкімі скляпеннямі, дзе пахне фарбай, дзе ўсё дыхае некранутаю чысцінёй, заўжды вусцішна. Бо гэта — не дом яшчэ, а толькі бетонныя каробкі, пастаўленыя адна на адну.

Дом пачынаецца з нечага іншага. З нечага, што напаўняе бетон, асвятляе вокны знутры. Цела без душы — не чалавек. І будынак без сэрца, без ачагу, без цеплыні — не дом.

У маёй прабабулі ў цемнаватым вясковым пакойчыку, дзе бялела печ, дзе налізвала лапкі котка, дзе нястомна тахкала сэрца насценнага гадзінніка, заўжды стаялі кветкі. Жывыя — жывілі ўсё вакол, нават узімку зелянеючы насуперак усяму. На падваконнях было цесна, кветкі грувасціліся ў кадках на стале, большыя вазоны — і на падлозе. Кавалачак дзікага і невымерна прыгожага свету — дагледжаны і паліты. Свой.

І да тых яе, прабабуліных, кветак, да таго цёплага ўтульнага пакойчыка дасюль цягнуцца, сягаючы праз час, нітачкі маёй душы.

Таму дзе б ні даводзілася абжывацца: на здымных ці ўласных кватэрах, на працах, — першаю справай, першаю думкай заўсёды будзе клопат пра жывое. Кветкі на падваконні — як першая лінія абароны, як мяжа паміж сваім і чужым.

Бо без разумення гэтай тонкай мяжы не можаш добра ўявіць, што, уласна, у цябе сваё. Не ўяўляючы, не ведаючы, наўрад і палюбіш.

А не любячы, не прывязваючыся, не клапоцячыся — не пражывеш.

## Герані

*верш для Марыі*

У маёй прабабкі на акне
чырвоныя, бы ранне,
пялёсткаў смех дарылі мне
старэнькія герані.

Быў за акном асобны свет
і — свет на падваконні:
сто тысяч зорак і планет
у гераней на далонях.

Сыры й такі зялёны пах
жывіў усё ў пакоі,

і спелі казкі на вачах,
і цешылі малое.

Між тым у бабчыных руках
вальс танцавалі спіцы,
і грукаў дождж у старэнькі дах,
нібы пытаў: — Не спіцца?

А вышыванкі на сцяне
нібыта ажывалі,
і з іхніх нітак ткалі мне
свой новы свет герані.

Ды ўсё мінула, як вада,
і знікла ў жоўтым жвіры.
Праліўся дождж — і шэпт аддаў
рачной вадзе і вірам.

Але й на гарадскім акне —
каб Горад сон не раніў —
усмешкай цешаць вока мне
старэнькія герані.

Мне даводзілася жыць у розных будынках — з рознай архітэктурай і гісторыяй, з розным характарам. З рознай душой, сатканай з безлічы танюткіх нітачак, ад кожнага жыхара да жытла прывязаных.

Скажам, у доме майго маленства, малінавым шматпавярховіку, часта баставаў ліфт. І з восьмага

паверху (ён па пашпарце, па запісе, значыцца, восьмы, а насамрэч — з хвосцікам, з дадатковай паловай пралёту ад самай ніжняй пляцоўкі) даводзілася спускацца ўніз. Або, аддуваючыся, падымацца ўверх, пралёт за пралётам, пераскокваючы па жоўтых квадрацiках.

За мутным непразрыстым шклом гулкіх пляцовак хаваліся дзверы кватэраў — розныя, розныя. Мінаючы, можна было — на імгненне — зазірнуць, ухапіўшы вокам сонны спакой над разнамаснымі дыванкамі ля дзвярэй. Ухапіўшы вокам і лічбы — выведзеныя чорным і белым, срэбрам і золатам.

З першага да восьмага і з восьмага да першага ісці доўга. Крок за крокам, крок за крокам. То ёсць час падумаць і ўявіць — што там, за лічбамі, за дыванкамі, за дрэвам і дэрмацінам, за замкамі ды засаўкамі.

У шматпавярховіках жыхароў шмат, бачацца рэдка, ведаюць адзін аднаго кепска (калі ведаюць). Ходзяць чуткі, няпэўныя, размытыя, як вобразы з-за мутнага шкла.

## *Кватэра 17*

Паштовая скрыня з гэтым нумарам у шэрагу іншых вісіць коса і чамусьці ніколі не зачыняецца. Наросхрыст. І ў кватэры дзверы калісьці былі заўжды прыадчыненыя, і пад вечар вузкая палоска

святла паўзла па бетонных прыступках да пляцоўкі ліфта. Быццам чакалі — з клопатам і трывогай.

Цяпер замкнёна.

Лічбы — насатая адзінка і сутулая сямёрка — некалі былі ззяйкія, свяціліся радасна. Цяпер глядзяць мутна, кранутыя ці то ржою, ці то пылам. І самі дзверы як бы ацяжэлі ад пылу, ад занядбанасці і самоты, і дыванок нячышчаны, і ў куце над дзвярыма ўтульна месціцца досыць вялікі павук.

Але кветкі на падваконні ў міжкватэрным тамбуры ўсё яшчэ стаяць — цесна гуртуюцца, цягнуцца да святла.

Жывыя.

## Плёткі

Цёця Зіна вяртаецца з рынку з запоўненым кошыкам.

Там не толькі цыбуля з бульбай,
там — пад трыста кіло ўражанняў.
А такога, згадзіцеся,
не купіць ні за якія грошы:
Чуткі свежыя,
Байкі ляжалыя,
Плёткі, на сале падсмажаныя.
Яна іх дастае і разгортвае трапяткімі пальцамі,
Выкладае на сподачак з цёмна-ружоваю кветачкай

І, каштуючы кожную, сонечна ўсміхаецца,
І разводзіць рукамі,
І шэпча захоплена: «Дзетачкі!..»

— Мае дзетачкі, каб жа ты ведала:
Нінку ўсё ж кінуў Антось.
Той, каторы сантэхнік, яго яшчэ звольнілі з ЖЭКа.
А ў замужняй Марынкі
Новы з'явіўся хтось,
І дарэмна за ёй дурань Стасік
Са школы бегаў.
Аляксей Адамавіч
Нешта зусім знямог.
Дзе, скажы ты, яго дачка? — Два ж гады не ўбачыць!
А Васюк, піяка,
Зноў на вачах, як бяльмо.
Хоць схапіла б яго міліцыя
На гарачым.

Плёткі пырскаюць з вуснаў
Упрост у настылы чай,
Плёткі тонуць, такія бездапаможныя,
У ім.
А з-пад цёці-Зінінай усмешкі
На мяне паглядае адчай,
А з-пад плётак — шэптам — самотнае:
«Яшчэ трошачкі
пасядзі?..»

У цёці Зіны нядаўна загінуў адзіны сын.
Яе кошык — проста нагода пайсці да людзей,
каб нязначныя словы бурылі
душэўную стынь,
каб расходзілася гаворка –
быццам кругі па вадзе.
Хтось бяду сустракае маўчаннем,
хтось — топіць бяду ў віне.
Цёці Зіне прасцей загаворваць сваю бяду.

І таму я п’ю свой агідны настылы чай
і запэўніваю:
— Ды не,
ды што там,
я яшчэ няхутка
пайду.

## *Кватэра 44*

Кватэру здымаюць.

Былі студэнты-хлопцы, што па начах, падпіўшы, бегалі па ўсім пад’ездзе з адчайным лямантам, была сям’я, дзе штовечар гучна сварыліся і плакала, павіскваючы, дзіця.

Цяпер вось гэтыя.

Уязджалі так: спачатку пліта («Прытрымайце дзверы, калі ласка!»), пасля разабраны ложак (спінка, бок і матрац ехалі разам у ліфце, пакуль

рэшта чакала ўнізе). Пасля чамадан, другі, торба, фікус — вось вам і ўсё.

Па выглядзе фікуса ці, можа, навюткага ложка ў доме здагадаліся, што гэтыя — не сям'я (не жанатыя, значыцца).

Несям'я з фікусам, зрэшты, не бегае, не сварыцца і не плача.

## Двое

А гэтыя двое
з нейкай прычыны
жылі — разам.
Ён у душы любіў спяваць
Барытанальным басам.
Ён па хаце раскідваў словы,
быццам шкарпэткі,
і любіў размаўляць пра надвор'е
з бабулькай-суседкай.

А яна падбірала за ім
рознакалёрныя словы,
мыла ў пральнай машынцы,
каб выкарыстоўваць нанова.
Патыхала карыцай
і яшчэ — лімоннаю цэдрай,
вечарамі вяжучы
свае нескончоныя швэдры.

А калі ліхтары на праспектах
пужліва гаслі,
яе белыя пальцы ў ягоных
бездапаможна вязлі,
а ён упэўніваўся,
што тонкасць яе ключыцаў
аддае на смак
салодка-гаркавай карыцай.

Так яны жылі —
разам з нейкае дзіўнай прычыны.
Бо іначай жыць
для іх было немагчыма:
паасобку абодвум
чамусь не хапала
дыхання.

Разам з імі —
трэцім нялішнім —
жыло каханне.

## *Кватэра 27*

Тут проста, здаецца.
Маці, бацька, дзеці.

Адно дзіця зусім дробнае, таму ездзіць на прагулкі ў калясцы. І калі ліфт у чарговы раз бастуе, маці даводзіцца спускаць каляску ўніз самой. Чуваць, як

дутыя колы пералічваюць прыступкі: бу-бух, бу-бух, бу-бух, разварот па жоўтай плітцы — і ўсё спачатку.

Некалі каляскі пакідалі ўнізе, побач з паштовымі скрынямі, але завядзёнка прайшла неяк сама сабой.

Другое дзіця, здаецца, ходзіць у школу. Зрэшты, яго і не чуваць, і не відаць, так што бабулі на лаўцы ля пад’езда, кажучы адна адной:

— Унь той малы ідзе з дваццаць сёмай! — звычайна памыляюцца.

З кім не бывае.

## Сон

Адася ў школку водзіць бацька,
трымаючы за руку,
і Адась пералічвае бацькавы крокі — сваімі.
Ён ад бацькі займеў
упартасць высокіх скул,
светлы колер вачэй
і доўгія лыткі сухія.

Ён ад бацькі займеў таксама
(хоць звонку і не відаць)
безупынны і дужа занепакоены розум
і таму начамі падоўгу не можа спаць,
і глядзіць на столь,
і задумваецца пра markрознае.
Бо начамі цені сыплюцца са сцяны
з ціхім шоргатам

напаўпразрыстых крыльцаў,
Бо Адась навучыўся
адшукваць чужыя сны —
да таго, як яны пачынаюць з падушак ліцца.

А ўранку маці
змушана доўга яго будзіць,
ды Адась не здаецца,
І нават сеўшы на ложку,
не расплюшчваючы вачэй,
цягне просьбы бясконцую ніць:
— Ну яшчэ зусім-зусім трошкі!..

А пасля па святле ліхтароў
бацька ў школку яго вядзе
і — з марознаю парай —
кідае рэдкія фразы.
І Адась побач з ім — і паўсюль, і адначасова —
нідзе,
глядзіць — і не бачыць,
думаючы пра ўсё адразу.

Ад пяшчоты ў бацькавым сэрцы
ўстае гарачынь,
і, паклаўшы сваю далонь
на Адасёў пампон,
ён пытае наўмысна строга:
— Верабей, ты чаго маўчыш?
— Проста я дасынаю твой
непабачаны сон.

## *Кватэра 83*

Кватэра адгукаецца, асабліва зранку, таропкімі крокамі.

Крочыць дарослая жанчына — абцасы сярдзіта выстукваюць штосьці з азбукі Морзэ на жоўтай плітцы. А побач са строгімі абцасамі лёгкія, мяккія дзіцячыя крокі: забягаюць наперад, пераскокваючы цераз некалькі прыступак адразу, і на месцы падскокваюць. І на адной ножцы, удала, як у дзіцячай гульні — і-по-пя-цу! — і на дзвюх, і накрыж, ух, як умею!

Жаночы голас глуха гукае, коціцца над жоўтаю пліткай імя. Хвостка, абрываючы, прыспешваючы, нагадваючы пра нешта важнае, што — як звычайна — чакае, чакае, чакае.

І крокі, жаночыя і дзіцячыя, драбнеюць, прыспешваюцца, бягуць насустрач таму важнаму-важнаму.

Заміраюць, выслізгваюць за патрывожаны ўскрык дамафона.

Сышлі.

## **Звер**

Маленькая Ліза любіць хадзіць па снезе —
Гладзіць падэшвамі ціхага
снежнага
звера.

Маленькай Лізе ў студзені стукне дзесяць,
Яна яшчэ мае гэту раскошу —
верыць.

А снежны звер зарастае бялюткай поўсцю,
Глядзіць з-пад поўсці
пранізлівымі вачыма.
А калі Ліза моцна хварэла, ён нават
заходзіў у госці
І гэтак гучна мурчаў, што думаць было немагчыма.

У звера на лапах па шэсць кіпцюроў агністых,
Якімі ён час ад часу чапляе
людскія сэрцы.
А па начах звер Лізе скардзіцца тоненькім свістам,
Што Лізіна мама яго не пускае грэцца.

Ліза выносіць яму пачастунак,
кладзе ў кармушку —
кармушка для звонкіх сініц,
але і для звера таксама.
Зрэшты, каля іх дома даўно не пабачыць птушак,
І гэта заўважыла нават Лізіна мама.

Апоўначы снежны звер зазірае ў вокны
І шкло размалёўвае інеістай іголкай.

Прывальваецца да высотак белым пухнатым бокам,
Калі тэлевізары праміргаюцца ўсе і
змоўкнуць.
Маленькая Ліза любіць захутвацца ў коўдру
І слухаць у цемры, прыцішваючы дыханне,
Як дыхае побач —
быццам бурлівае мора —
снежны пухнаты звер с трыццацю і трыма хвастамі.

Маленькая Ліза часта яго малюе:
хвасты, кіпцюры і
зырка-блакітныя вочы.
Паказвае маме — і мама тады хвалюецца,
І нават гуляць адну дачку адпускаць не хоча.

А Лізе сэрца тады пячэ, і яшчэ знутры вочы коле.
— Але ж, мамачка,
я больш не адна!
Ніколі-ніколі.
Ніколі.

## *Кватэра 113*

Тэлевізар неразборліва буркоча амаль увесь час, і гэтае буркатанне прабіваецца нават праз двайныя дзверы ў тамбур. Рэклама чарговых

кітайскіх фіранак з фотамалюнкам, і чарговы расійскі серыял са стрэламі ды лямантам, і чарговыя песні пра:

— Любоў-боў-боў!..

А чалавечых галасоў, лічыце, і не чуваць.

Людзі, аднак, жывуць: ходзяць паўз суседскія дзверы, забіраюць з паштовай скрыні квітанцыі ды каляровыя рэкламкі.

Проста неяк прымудраюцца не размаўляць паміж сабою, запаўняючы мулкую цішыню голасам тэлевізара.

І становіцца не па сабе, калі ўявіш, што можа быць так: чалавек і чалавек, і быццам бы побач, і быццам бы ўсё добра, і як трэба, і як у людзей.

А насамрэч — бездань, для прыліку прыкрытая рэкламнай лухтой.

## Таня

Тані трыццаць гадоў
і яшчэ, апроч гэтых,
пяць.
Таню штораніцы прагна
глынае метро.
І пакуль пасажыры вагона
ціха і мірна паўспяць,
Таню вабіць яе адбітак,
як сонца — кветку-геліятроп.

У адбітка нявінны твар,
як у санціеўскіх мадон,
у адбітка не вочы —
азёры сіняй тугі.
І пакуль аб’яўляе станцыі
размераны барытон,
Таня бездапаможна тоне
ў адбітку вачэй сваіх.

За разумнай парадай
не прыхінацца да шкла
выплывае з кружэння і свісту
Танін уяўны свет,
у якім яна, канечне, шчаслівай была б
і які адно ў адбітках і снах
жыве.

Таня прагна глядзіць і сочыць —
не адарваць вачэй.
Твар мадоны расквечвае ўсмешкі
няўлоўны бляск.
А вагон падкідвае,
ён нясецца хутчэй
і хутчэй, за сабой,
як пяром,
цягнучы думак
вязь.

Ды — канцавы прыпынак і
«Поезд далей не ідзе».
Таню, быццам бы шчэпку,
выносіць людская плынь
з яе свету рыцараў, фей
і прыўкрасных дзеў.
І на эскалатары Таня
сама сабе шэпча:
— Кінь!..

На рабоце — святая тройца:
еўра, рубель і даляр, —
абступаюць Таню
і не даюць уздыхнуць.
За бясконцымі лічбамі
бачацца ёй здаля
крыльцы фей
праз шэрую каламуць.

Так павольна цягнецца дзень
ажно да васьмі гадзін.
Дома Таню чакае
вечна пакрыўджаны Стась.
Па дарозе дамоў
Таня ў шкло не глядзіць:
да наступнай раніцы
яе свет
пагас.

## *Кватэра 52*

У цеснаватую каробачку ліфта заходзіш пасля доўгага дня нагружаны пакункамі, перажываннямі, крыўдамі, абяцаннямі, сваймі і чужымі, і салодкай мрояй пра гарачыя пяльмені.

— Мне на сёмы, — гэта хтось ад панэлі з гузікамі, і рука пытальна замерла над лічбамі.

— Мне вышэй, — адказваеш механічна.

А пасля падымаеш стомленыя вочы — і позіркам натыркаешся на чужыя. Пасля на няўдалае графіці (гэта ўсё гадавец з пятнаццатай, гэта ўсё ён!), і зноў на чужыя вочы, і ўтаропліваешся ў падлогу, такую бяспечную, з па-сірочы прысталай у кутку ружоваю гумкай, з кінутай некім улёткай, што рэкламуе зубныя пратэзы.

А ліфт ідзе ўверх з мяккім шоргатам, і лямпачка патрэсквае пад столлю, і зараз — вось зараз, вось літаральна зараз — усё закончыцца.

Можна будзе, нарэшце, перавесці дыханне і з роспаччу ткнуць у гузік свайго паверха.

Нічога такога — выключнага, дзіўнага — і не здарылася, праўда ж?..

## Сонечны зайчык

Ты складаўся
з сарака чатырох

кепскіх звычак,
з рэзкіх пахаў
табакі і скуры,
сузор'я радзімак на бледным абліччы
і
да смешнага
недагледжанай
шавялюры.

Не пазбаўлены
сутаргаватасці жэстаў,
мерыў крокамі
цесны пакойчык,
гаварыў зашмат
і сядаў на месца
для таго толькі,
каб ізноў падскочыць.

Разважаў так лагічна і звышразумна
пра ўсе
вусцішна
важныя рэчы
і сурова
трос чубам
карыкатурным,
распраўляючы мужна
плечы.

Ты натхняўся яшчэ і яшчэ,
а таму не быў здольны
ўбачыць,
як слізнуў па тваёй шчацэ,
у сэрца ўдарыў,
заззяў ярчэй
залацісты
сонечны
зайчык.

А ты крыўдзіўся:
– Я ж сур’ёзна, ну?
Што за ўсмешка
ад вуха да вуха?

...зайчык пальцы мае крануў.
— Проста я
так люблю цябе
                слухаць.

## *Кватэра 78*

Алоэ на падваконні стомлена нахілілася ўбок. Яшчэ з навагодніх святаў вісяць на ім абрыўкі серабрыстага «дожджыку» — асабліва не ўпрыгожваючы (парэшткі былой раскошы). За вокнамі буяе май, і з кепска зачыненай форткі цягне цяжкім водарам паслянавальнічнага бэзу.

Побач з алоэ — кубкі з недапітай кавай (адзін, з жабкаю, — надколаты) ды бляшанка з-падількі. У бляшанцы не рыбінкі ў таматнай заліўцы, як аптымістычна абяцае наклейка, а недакуркі і попел, ды яшчэ чамусьці скручаная ў банцік абгортка ад цукеркі.

Попел стылы, ад недакуркаў не падымаецца дым — суразмоўцы даўно адгаварылі сваё і сышлі. Унізе, пад домам падае працяглыя зыкі таксі, і кіроўца, выставіўшы з вакна локаць і пляшывую галаву, з суровым чаканнем паглядае на дзверы пад’езда.

Што тут было і пра што гаварылі — алоэ нікому не раскажа.

Не выдасць.

## Балада пра мінус пятнаццаць

Сястра мне расказвае
па-над кубачкам з чорнай кавай
(без малака і без цукру,
арыстакратычна),
што справы — дрэнь
і ўвогуле што за справы,
і лыжачкай дзынкае
механічна.

Сястра мне расказвае:
некуды збегла котка,
а тут маразы якраз ударылі ноччу.
Сястра шукала,
прастыла,
ушчэнт падрала калготкі
і, апрача таго, выплакала ўсе вочы.

Сястра мне расказвае:
трэба сыходзіць з працы,
бо ставак няма,
і нешта там круціць загадчык.
Зрэшты, яна і сама
даўно хацела звальняцца —
сілы няма болей гэтыя твары бачыць.

Сястра мне расказвае:
мусіць, з Паўлам нічога не будзе,
бо тры гады пра вяселле не разявае зяпы.
І ўвогуле,
Хіба ж нармальныя людзі
Бавяць увесь вечар з чыпсамі на канапе?

Сястра сціхае: горла перахапіла.
Крылом галубіным мільгае ў руцэ насоўка.
А я ліхаманкава згадваю ўсіх,
каго калісьці любіла,
каб прыклады гадаўцаў сумнай сястры падсоўваць.

— Нічога, — кажу. — Не плач. А хочаш, замовім віна?

Ці, можа, паедзем у клуб з джазам і танцамі?

Сястра падымаецца:
— Не. Разумееш,
Машка там недзе — адна,
а сёння ізноў да мінус пятнаццаці.

## *Кватэра 30*

З боку вуліцы, каторая бульвар, пад шматпавярховікам — асфальтавыя дарожкі і вялікая клумба.

З клумбы, дзе штогод саджаюць туі ды ружы, пад покрывам цемры туі ды ружы перыядычна крадуць. Так што з восьмага паверха раніцай замест раслін добра бачна свежыя ямінкі.

На асфальтавых дарожках вакол раскрадзенай клумбы белаю фарбай (а то і крэйдай) прызнаюцца ў каханнях. Часам літары па метры ў вышыню, так што на ўсе пачуцці не стае асфальту.

Вось і выходзіць, тлуста:

— Катя! Я тебя лю…

А пасля — толькі шматпакутная клумба ў воспінах крадзяжоў.

# Паляванне на драконаў

З арбалетам,
Ды без парасона,
Апрануты не па сезону,
Падпіраеш макаўкай неба
І ўсміхаешся.
Ведаю:
Трэба
Зняць з сябе галаву
І давесці, нарэшце, да ладу.
Толькі кнігамі і жыву —
І квадрацікамі шакаладу.
Ды яшчэ
Балансам
Інь-ян
У кубку стылай зялёнай гарбаты.
З люстра нехта (ці я?)
Пазірае на свет хітравата.
Стынуць гронкі рабіны пад снегам —
Ах, іх невыносная чырвань!
Пад блакітнай, пад зыркаю Вегай
Люстра, быццам бы дзверы, адчынім.
Дзеці белых зімовых мух
Ротамі,
Быццам жабкі,
Ловяць.
Я таксама адну вазьму —
Хай сагрэецца на далоні.

Скуру мяккую замяню
Лускай з вогненнага металу,
Набяру поўны рот агню,
Як дыхну — і зіма растала.
Толькі цень мой намёртва застыў.
Усміхаючыся гасцінна,
Галаву маю
Здымеш
Ты
І павесіш яе
Над камінам.

## *Кватэра 2*

Гэтыя вяртаюцца дамоў — звычайна — увечары і абавязкова ўдваіх.

Ідуць пешшу (колькі там тых прыступак). Размаўляюць звычайна пра нейкую лухту: кошты цукерак у «Еўраопце» ды ў не-«Еўраопце» (дзве крамы побач толькі і ёсць), вулічных катоў, якіх бачылі па дарозе, колькасць чырвоных машын ды месцаў у аўтобусе.

Спрачаюцца напаўголасу, і ён звычайна саступае, хаця і бурчыць, і цвёрда трымае яе пад руку. Так і ідуць удваіх, побач — не размінешся з імі на лесвіцы, не абгоніш.

Другою рукой яна абапіраецца на палачку і часам абрывае размову на паўслове, прыпыняецца, каб аддыхацца.

Ідуць разам штовечара.
Цэлае жыццё.

## Мы

Мы будзем чакаць адзін аднаго
Па калена ў вадзе:
Я — ля «Кастрычніцкай»,
Ты — на плошчы Якуба Коласа,
І будзеш крычаць мне ў слухаўку
Сіплым сарваным голасам:
«Ты, гэтак цябе растак, дзе?!»

Мы будзем бегчы насустрач адзін аднаму:
Я — па Незалежнасці,
Ты — па праспекце Скарыны,
І ты не спытаеш мяне пра спазненне — «Чаму»,
А толькі ўздыхнеш з асуджаным тварам:
«Жанчыны!..»

Мы будзем — мацней і мацней —
Трымаць адзін аднаго.
Я прыцягну цябе,
А ты — за плечы — мяне.
І спытаеш гэтак сярдзіта: «Чаго?
Думаеш, я закаханы? А вось і не!»

## *Кватэра 41*

Ён паркуецца на адным і тым жа месцы вось ужо гадоў з дзесяць. Сіняя такая вялікая машына, лупатая, нечым падобная да кіта, якога выкінула на бераг. Кіт без гаспадара нервуецца: лямантуе на ўвесь двор, варта хоць котцы паўз яго прабегчы.

Кітабой цяжка тупае, пазвоньваючы ключамі, да ліфта. Патыхае ад яго табакай — моцна, ажно казыча ў носе, калі ехаць разам у дрогкай каробачцы ліфта. І з-за дзвярэй ягонай кватэры выпаўзае, выліваецца ў міжкватэрны тамбур рэзкі пах смажанага мяса: жонка, мусіць, шчыруе на кухні. І ўсё ў іх рэзка, гучна, груба.

Твар у кітабоя ацяжэлы, акруглены, змрочны, з вечна адцягнутымі долу куткамі вуснаў, з сінявататымі ценямі пад вачыма, з барадаўкай на расплывістым падбароддзі.

Кітабоеў твар мільгае на старонках раённай газеты — з лёгкімі вершамі пра першае каханне ды вясну.

## **Спяць**

Людзі спяць.
Хто дыхае ціха, а хто — храпіць,
Так што шклянкі на кухні
Дробна дрыжаць ва ўнісон.

Падбяру з падлогі
Нябачную месяца ніць
І па ёй, як па дроце,
Бязважка ўвайду ў нечы сон.

Людзі сняць.
Хто зарплату, а хто і сваіх дзяцей.
Некаторыя нават у сненні
Бухгалтарскі зводзяць улік.
Горай тым, хто без кроплі святла
Самотна крочыць праз цень,
Альбо тым, хто падае вечна —
І не можа выціснуць крык.

Людзі спяць.
Быццам пацеркі,
Коцяцца мроі ўначы.
Месяц лапай кашэчай
Чапляе іх на кіпцюры.
Месяц ловіць кашмары,
Каб людзі свой мелі спачын
Хоць у сне.
Хаця б трошачкі.
Хоць да зары.

## *Кватэра 49*

На падваконне да пляцоўкі ліфта саслалі пластыкавых Дзеда Мароза ды Снягурку. Мусіць, савецкіх яшчэ: на якіх дзіцячых «навагодніх» фота вось такія лялькі не глядзяць з-пад ялінкі.

А гэтых — выкінулі. Дакладней, не тое каб выкінулі (на сметнік вынесці быццам і шкада). Проста пакінулі. Пабітых жыццём, падраных, у Дзеда унь нават трэшчына на спіне зеўрае. І твары зацерліся, згубілі колеры, згубілі святочныя чары. Прыпалі пылам і безнадзейнасцю.

І маўкліва сочаць за тымі, хто праходзіць паўз іх уверх ці ўніз.

З надзеяй.

## **Зіма**

А ў гэты дзень да нас прыйшла зіма —
У ціхі горад снежнаю віхурай.
Застылі рэкі — у ільдзе, нібы ў мармуры, —
Абшыла дрэвы срэбная тасьма.

Над галавою — мой прыватны скіт:
Насуперак раз’юшанай стыхіі
Я выстаўляю пад вятры ліхія
Свой парасон, апрануты ў блакіт.

А строй дамоў, адчужаны, пануры,
На плечы ўскінуў белы снежны шаль —
Рыхтуючыся на святочны баль,
Салонны ўбор прымерваючы мурам.

Зімой так добра марыць аб вясне,
І сніць у снах, і мо камусьці сніцца.
І быць — ва ўсім: у рухах дрэваў ніцых,
У ліхтарах, што льюць святло на снег,

У светлым спеве снежнае завеі,
Аскепках шызых ледзянога шкла,
У той любові, што калісь была,
А зараз снежным сном дрыжыць на веях.

Завея ўецца. У гэты рой не ўліцца
Спрабую каля выхаду з метро,
Як пёрка на руках сівых вятроў,
Як парушынка ў крылах навальніцы.

А ў гэты дзень да нас прыйшла зіма.
У квадраце сквера, быццам на паперы,
Радкі слядоў застынуць клінам шэрым —
Ды подпісу знаёмага
няма.

## *Кватэра 23*

Машына мама працуе. І тата працуе. І брат працуе таксама (прынамсі, кажа, што працуе — у садку). А ў Машы, калі на тое, школка. І — ніякага жадання заставацца на прадоўжанку.

З мамай дамовіліся так: тры гадзіны, пакуль тата прыйдзе, Маша пабудзе сама. Маша, увогуле, чалавек самастойны і адказны, знойдзе, чым заняцца. Кніжкі, расфарбоўкі, лялькі. Мала што.

Маша не ведала, што ў пустой кватэры так добра чуваць, як ходзіць за сценамі ліфт. Як гучаць — зверху і знізу, адусюль — нечыя крокі. Як вада капае — быццам нешта пачварнае караскаецца, падбіраючыся бліжэй. І бліжэй.

...тата, вярнуўшыся, знайшоў Машу замкнёнай у дальнім пакоі:

— Наступным разам, можа, радыё ўключы?

Пачвары любога кшталту, як вядома, не нападаюць пад музыку.

Саромеюцца.

## Прадачуванне

Неба падае
Проста ў лужыны,
І дрыжаць аскялёпкі блакіту.
За гарбатаю,

Трохі прастуджаным,
Добра марыцца
Аб нязбытным.

І размова, такая звыклая,
Уваходзіць
У свае каляіны.
І здаецца:
Пра нешта забыла я
Ці — драбочак сябе
Згубіла.

Нешта ў трубах
Варушыцца і бурчыць,
Падае свой
Звярыны зык.
Быццам хоча нас
Нечаму навучыць
Гарадскі замучаны
Дамавік.

А на кухні,
Ведаеш, пад акном,
Дзе і цёмны,
І ўтульны кут,
Скразнячок малы
Свой наладзіў дом
І, здаецца,
Прыжыўся тут.

Кроплі з грукатам дробным
Стукаюць у шкло,
Разбіваючы люстра сну.
Запалю ва ўсёй кватэры
Святло
І ўпушчу да сябе
Вясну.

## *Кватэра 19*

Усё жыццё я расказваю гісторыі. Добрыя або кепскія. Выдуманыя цалкам ці амаль-што-праўдзівыя. Зрэшты, пакуль казка расказваецца — яна заўсёды праўда (для таго, хто расказвае, і для таго — каму).

Усё жыццё людзі расказваюць гісторыі. Пачынаючы з дзіцячага «яно само разбілася» да школьнага «не ведаю, дзе сшытак з апошняй кантрольнай». З юначага «я (не) кахаю цябе» да дарослага (прафесіянальнага) «яно само так атрымалася».

Увесь час існавання чалавецтва мы, людзі, расказваем гісторыі. Казкі. Добрыя або кепскія. Горшыя або лепшыя. Пераможцы і пераможаныя, шчаслівыя і нешчаслівыя, падманшчыкі і падманутыя. Мы прыдумляем іх, расказваем іх і, у рэшце рэшт, верым ім.

Кожнаму трэба ў нешта верыць.

Кожнаму патрэбны ўласны драбочак казкі.

# Казкі

Хочаш,
я раскажу табе
казку?

Там будуць князёўны,
там будуць героі,
і абымшэлыя вежы палацаў,
і цяжкія ўздыхі
бліскучай зброі.

Хочаш?
Там будуць агні над багнай,
і навальніцы над курганамі,
і покліч рагоў паляўнічых прагны,
пад покрывам Пушчы —
алень загнаны.

Ты бачыш?
Вакол нас вiруюць цені
і шэпчуць спакусліва і салодка
пра запаветныя сцежкі сненняў,
што зводзяць прэч
ад любых турботаў.

Ты іх не слухай:
нам — далей крочыць
па лесвіцы з месяцовых промняў

пад сінім покрывам
вечнай ночы,
што пакідае іней
на скронях.

Казка
расказваецца — але і,
з крывёю змяшаная,
у жылах б’ецца.
Бо створанае толькі тады ацалее,
калі ў ім трапеча
драбочак
сэрца.

Я, можа быць,
досыць часта хлушу,
ды хлусіць табе не змагу — ніколі.
Нераспавядзёныя казкі
душаць,
пакуль яны ўнутры
зняволеныя.

Яны прыходзяць
загнаным аленем,
агнямі плывуць
над дарогаю гразкай.
Пакладзі ж галаву да мяне на калені.

…хочаш,

я раскажу табе
казку?

## *Кватэра 37*

Яна амаль не выходзіць: не вельмі выйдзеш у вазку. Дапамагаць ёй цяпер асабліва няма каму, ды і яна не ўмее прасіць. Зрэшты, многія не ўмеюць у час папрасіць аб дапамозе, патаемна спадзеючыся, што — пабачаць, падхопяць, паклапоцяцца.

Людзі не бачаць, не падхопліваюць. Не таму, што кепскія. Проста, карыстаючыся выгодамі жыцця, не заўжды згадваюць тых, каму тых выгодаў дасталося меней.

Яе вокны выходзяць на вуліцу. Там вялікая вярба, аднагодка шматпавярховіка, хітае касматаю галавой, на клумбах наліваецца летнімі сокамі і зноў рыжэе трава. Людзі крочаць, клыпаюць, подбегам і падскокам наганяюць уніклівыя хвіліны. Бягуць, бягуць.

Яна ўважліва глядзіць зверху, але людзі не падымаюць галоваў.

# Навальніца

А ты сядзела на самым версе,
замкнёная мною ў вежы,
і слухала:
вось бурчыць
навальніца
на голас мядзведжы.
І слухала:
вось звініць
на вокнах густою аблогай
сталёвае пер’е
з крыла навальнічнага бога.

А ты сядзела на самым версе,
да неба — бліжай.
Калі маланкі ігла
густыя хмары праніжа —
пакой затапляе
святлом
раз’юшанай сіні…
Скажы мне,
ты шэптам тады
чагосьці ў неба прасіла?

Ці сытага золата бляску,
Ці пяшчотнасці аксаміту,
Ці то дарагіх камянёў,
адмыслова апраўай спавітых?

Ля ног тваіх кіну ўсё гэта,
каб толькі ты мела спачын.

…і ты ўсміхнулася светла,
і ты папрасіла —
ключы.

## *Кватэра 28*

Кепска, калі позна ўвечары пачнуць званіць у дзверы.

Па тэлевізары звычайна вуркочуць навіны, навяваючы сон. У кубках стыне недапітая гарбата, і хтосьці варушыць газетным лістом, і ад крокаў трамваяў на вуліцы ўнізе дробна скаланаюцца шыбы.

Але тут віскліва адгукаецца гузік званка на нечы заклапочаны дотык. Раз, яшчэ раз, з заіканнем: палец ад хвалявання схібіў. Ідзеш на гэты трывожны покліч, запальваеш святло ў вітальні, адмыкаеш замкі, каб упусціць халадок пад'езда і пах табакі аднекуль зверху. А разам з гэтым усім — суседа або суседку, абавязкова паўзнаёмага і паўапранутага, ускудлачанага, у нешта такое — плед або коўдра? — захутанага.

Адразу — вялікія вочы:

— Ведаеце, а ў нас жа, аказваецца (тут гучыць імя, за якім пацягнецца хвост успаміну)…

Апошняе слова аднымі вуснамі, каб не наклікаць.
І халадок пад’езда чапляецца за сэрца.
Ад вусцішнай блізкасці таго, незваротнага.

## Туман

Паром адыходзіць апоўначы,
мой дарагі,
Бо белы туман, быццам саван,
Абгорне сабой берагі,
Згусціўшыся незаўважна, з’явіўшыся неспадзеў,
Падымецца аж да неба
На ціхай чорнай вадзе.

Паром адыходзіць апоўначы. Час ляціць
На крылах, з туманаў пашытых,
і не пайсці —
То значыць заўчасна знікнуць,
Сысці ў туман,
Які адначасна — усё і ў якім —
Нічога няма.

Паромшчык, я ведаю, дорага не бярэ —
Сярэбраную манету ў руцэ сагрэй
І пакладзі старому на астравок-далонь.
А я, калі горкая памяць
Іглою пачне калоць,

З імем тваім на вуснах
Сяду каля вакна.

…можа, цябе адпусціць
Белы, як снег, туман?

## *Кватэра 5*

Ля ўваходу ў падзем’е — вышываныя сурвэткі, і мяшэчкі, і насоўкі. Раскладзеныя на пыльным мармуры, гарачым ад жнівеньскай спёкі.

— Купіце, дзевачкі, — ласкавым няўпэўненым голасам. І ёсць у гэтым голасе такія ноткі, што прыпыняешся, забываеш, куды спяшаўся ды нашто.

Над сурвэткамі — блакітныя старэчыя вочы, выцвілыя, стомленыя.

Як тут прайсці міма?

— Будзе бабе хоць на ніткі, — гэта ўжо з усмешкаю, супакоена, упэўніўшыся, што сурвэтка і насоўка знайшлі сабе дом.

На белым танчаць агністыя астры, кволыя зялёныя лісточкі. Сплятаюцца ва ўзор, цягнуцца, песцяцца, радуюцца.

Калі мне сумна, я дастаю тую чужую вышыўку, тыя нечаканыя, незапланаваныя астры, вогненныя на белым. Адчуваю пад пальцамі колішні пыльны жнівень.

І — лепшае.

# Вышыўка

Як не згубіцца ў верасні?
Ранішні бляклы дождж
Пахне ліловым верасам,
Крэслячы вокны ўздоўж.

У небе — адценні белага,
Строгі жамчужны шоўк.
Пальцы дажджу знямелыя
Вышыўкі цягнуць шоў.

Квецень — і гладдзю, і крыжыкам —
Будзіць іголкі ўзмах.
Вырастуць астры рыжыя
І на маіх рукавах.

## *Кватэра 34*

Калі здымаеш кватэру, ледзь не самае страшнае — забыць ключы. Ясна, бяда, калі патоп ці пажар, але там — стыхія. А тут проста чалавечая дурасць, ды яшчэ твая ўласная.

Ключы ў кватэры, у іншай торбе, дзверы замкнуліся, і ты — звонку.

Мусіць, чалавечая дурасць — таксама стыхія.

І застаецца толькі сядзець у парку (хаця б парк побач ёсць) ды чакаць гаспадыню, у якой запасны

камплект ключоў. Сядзець і чакаць, доўга-доўга, бо кватэрная гаспадыня едзе з дачы і, ясна, дзеля адной дурніцы спяшацца не збіраецца.

Сам-насам з паркам, старым, цяністым, з сярдзітым Горкім на высокай лаўцы, да якога вечна спрабуюць узлезці ды сфатаграфавацца, з радаснай дзіцячай віскатнёй і беганінай.

Сядзець і патанаць у чаканні душою, а позіркам — у Свіслачы.

Адчайна, як чайкі.

Чай-чай, выручай.

## Парк

Вертыкалі, гарызанталі.
Хмары — колеру стылай сталі,
Як пад купалам — з рэхам — гукі.
Дрэвы цягнуць даверліва рукі,
Па плячы далікатнай лапай
Патрапляючы прагна, трапна.
А па іх залатых далонях
І няўрымсліва, і няўмольна
Крэсліць восень свае пісьмёны.
Вецер свіслацкі, злёгку салёны,
Поўніць сырасць, рачныя пырскі.
Над ракой, быццам полаг калыскі,
Цень няўлоўны смугі трапеча,
І на парк апускаецца
вечар.

## *Кватэра 88*

Раней хадзілі ў госці — дык гэта ў госці. Гатавалі ўсялякага-featuresрознага дні на тры, не меней, і тры дні не разыходзіліся. Пакуль, значыць, усё не з’ядуць. І сталы-кнігі былі — якраз каб усе ўселіся, каб усе разам пілі, і елі, і падымалі чаркі за здароўе, за гаспадароў, за любоў. Многа-многа «за».

І мы, дзеці, ліманад са шклянак з машынкамі пілі не абы-як, а — абавязкова за штосьці.

У міжкватэрным тамбуры доўга-доўга ляжалі дошкі, якія клалі паўзверх двух табурэтаў: крэслаў на ўсіх не ставала, а так выходзілі доўгія лавы. Ляжалі тыя дошкі, ціхія, забытыя, доўга-доўга, а пасля зніклі, быццам паглынутыя часам.

Як і не бывала.

## На рацэ

Брат мяне пасадзіў на выратавальны круг
і сказаў –
з вышыні шасці год,
дарослы і недасяжны:
— Ты запомні, дурная, гэта — папраўдзе важна.
Ты трымайся мацней
і проста
глядзі ўгару.

Круг — са мною на ім — пацягнулі
па светлай вадзе
брат і сябар ягоны,
абсыпаныя пяском.
Ну а мне, пасажыру,
засталося ў неба глядзець,
вочы звужваць на сонца,
што ціха ішло на схон.

Сонца ў пырсках вады і —
да звону —
у маёй галаве.
Саслабелыя рукі так прагнуць
сустрэць ваду.
Я слізгаю ўніз і думаю з жахам:
«Упаду!»
І я падаю ў неба,
вышыванае
па рачной канве.

А рака прымае,
закалыхваючы,
кладзе на дно,
як драбніцу сваю,
як кроплю крыві сваёй.
Я працягваю рукі да сонца —
яно з-пад вады відно,
цягне промні свае да мяне,
бы каласы —
асцё.

Мяне выхапіла з вады
кола цёплае матчыных рук.
І да гэтай пары,
калі патанаю
ў журбе,
пра калыску рачную нагадваю я сабе —
і трымаюся як мацней,
і проста гляджу ўгару.

## *Кватэра 75*

Сям’я тут дружная, хай сабе і трохі замучаная кватэрным пытаннем.

У двух пакоях — тры пакаленні: цешча, жонка, муж і двое дзяцей, брат і сястра. Можа, таму і няма выбару, трэба быць дружнымі. Іначай не пражывеш.

Дзяўчынка старэйшая і, казалі, вучыцца ва ўніверсітэце. Першакурсніца. Нядаўна пачала фарбаваць вусны ў модны ярка-чырвоны:

— Дарослая. Нявеста зусім!..

Маці ў ліфце неяк захоплена распавядала, як нявеста з патэнцыйным кавалерам у першы раз пайшла ў начны клуб. Так бацькі звычайна распавядаюць пра першыя крокі сваіх дзяцей.

Хлопчык яшчэ школьнік, задумлівы, змрачнаваты, падлеткава даўгалыгі — шчанюкі, калі растуць, бываюць вось такія дзікаватыя ды нязграбныя, як бы нязвыклыя да ўласнага цела.

Вераніка і Максім.

Маці іх некалі вучылася на філфаку і адтуль, мусіць, вынесла замілаванасць да гэтай пары імёнаў. І, можа, закрануўшы струны прызначэння, праклала — па зорах — лёсы і адной, і другога.

## Максіму

Ён, напэўна, дужа кахаў яе.
Ён з кахання і з вершаў сплятаў вянкі —
Дзеля дотыку тонкай белай рукі.
Ці яна кахала?
Напэўна, не.

Ён, напэўна, дужа кахаў яе
І слупом саляным ля яе стаяў,
Калі песцілі белыя рукі раяль.
Ці яна заўважала?
Напэўна, не.

Ён, напэўна, дужа кахаў яе.
І, пад зоркай Венерай імя несучы,
Каля сіняга мора знайшоў спачын.
А астатняе…
Гэта — не важна.
Не.

## *Кватэра 60*

Бялілі ў пад’ездзе столі, фарбавалі сцены (да паловы, зялёнаю фарбай «жабінага» адцення). Жыхары бурчалі: хтосьці нават хапануў фарбы крысом новага паліто, камусьці галава балела.

Дзверы, у каго навейшыя, у каго старэйшыя, ашчадна папрыкрывалі ад фарбы ды пабелкі. Хто старымі прасцінамі, хто разрэзанымі пакетамі, хто — кардонкамі.

Затое пасля пасвятлела ды пасвяжэла вакол. А паліто можна і ў хімчыстку занесці. Справы той.

Але ў абноўленым пад’ездзе наперад выступілі, у вочы кінуліся дзверы недагледжаныя, з дотыкамі рамонту — пацёкамі фарбы, белымі разводамі. Пыльныя, нягеглыя. Забытыя.

Дзверы, за якімі болей ніхто не жыве.

## **Позні жнівень**

На крок мы апярэдзім лістапад
І выйдзем з-пад завесы жаўталісця.
Асенні вецер далягляд ачысціць,
Каб хмары не вярнуліся назад.

Сухіх лістоў ласкавыя далоні
Пяшчотна гладзяць нас па валасах,

А заўтра будуць — пад нагамі прах,
Пыл беспрытульны на рачным улонні.

На крок мы апярэдзім лістапад —
З апошнім лета водбліскам на тварах —
Пакрочым ў небе і, як тыя хмары,
Ніколі больш не вернемся назад.

## *Кватэра 12*

Пад’езд — цемнаваты, цесны. Занадта шмат дзвярэй на адной пляцоўцы, на лесвічных пралётах не развярнуцца.

На першым паверсе абавязкова пахне рыбай — штодзень яны там яе смажаць, ці што? Няўцям.

На падваконнях, на сценах ліпкаваты налёт пылу. Але кветкі стаяць — дагледжаныя, пекныя. Агністымі зорачкамі бліскаюць, рассыпаюцца белай квеценню, выпускаюць стрэлы з навершам-бутонам.

Адну з кветак на тым першым падваконні неяк знеслі. Проста ішоў чалавек, пабачыў, упадабаў — і прыхапіў з сабою. На вакне тады пакінулі запіску: «Вярніце скрадзенае».

— Калі ласка.

Вярнуць не вярнулі (пасаромеліся?). Падкінулі — паверхам вышэй «забылі» праз пару дзён на падваконні.

І кветкі стаяць. Пекныя.

## Уласны крыж

Усім нам згодна з сілаю дадзена,
Па плячы і руцэ — адмерана.
А на спіне — не крылы складзены,
Можна злосна на свет ашчэрыцца.

Што на сэрцы асела цяжарам?
Што на вуснах ускіпела горыччу?
Што з касматай душы непрыгладжанай
Выбіваецца вонкі — покрычам?

Усе мы цягнем па ношы Сізіфавай,
Прыпыніся — і скоцішся каменем.
У адным толькі лёс нас літаваў:
Уласны крыж абіраем самі мы.

## *Кватэра 9*

...прыходзіў і скардзіўся на яе. Не разумее,ната-цыі чытае. Спрачаецца, і ўвогуле — не складваюцца адносіны.

— Што яна ўвогуле разумее, бабка старая?

І пакуль мы разам ездзілі дамоў — з Купалаўскай да Трактарнага, а стуль на аўтобусе, — выгаворваў, як жа яна надакучыла, як не хочацца не тое што ў адведзіны ісці, а нават і званіць.

Не званіў. Пасля пазванілі яму — сказалі, памерла.

Засталося непатрэбнае, знешняе. Хлам. Маленькая аднапакаёўка ў зялёным ад бэзу цэнтры — уся заваленая рэчамі ды ўспамінамі, з характэрным пахам старасці, закінутасці.

Забыцця.

## Гузікі

По траве толькі бегалі босымі,
А цяпер трэба быць дарослымі,
Зашпіліцца
На аплікі,
Гузікі,
З валасоў сваіх
Выблытаць
Музыку.
Дзень па дні —
усе бягуць
Наўздагон
(без цябе).
And the magic is gone,
Штось знутры
Быццам вырвана
І ніколі не вернецца
З Выраю.
Да зямлі травы хіліць іней,
Усё мінае, мо й гэта —
Згіне?

Згінуць цені сяброў
І любых,
Згінуць жахі
І знікнуць згубы.
І мы зноўку —
Нязменныя ўсё ж —
Пабяжым па траве
Басанож.

## *Кватэра 63*

Сцены без упрыгажэнняў — голыя, сумныя. Пакой падаецца неабжытым, і рэха гуляе па бетоннай каробачцы.

А ў мяне за шклом кавалачак Пушчы, выпадкам куплены на пленэры ў Белавежы. Мазкамі фарбы — вецер у траве, і пляміны сонца ў лузе. Звініць дубовае лісце, па ствале разбягаюцца сонечныя зайчыкі, і аблокі блытаюцца ў вершаліне.

Там калісьці мерыў цішыню азёрнага берага белы бусел.

Там цяпер турысты з радасным лямантам катаюцца на акваскутэрах.

Але тут, у мяне на сцяне, застыла імгненне.

Спачывае за шклом кавалачак маёй памяці.

# Цмокі

Там, у цёмнае пушчы,
Дзе дрэвы стаяць, як слупы,
Пераплёўшы карэнне
і сукаватае веццe,
Секачы сярод моху
Вышукваюць жалуды
І трывожна ўбіраюць
Праз ноздры
Духмяністы вецер.

Бусел ходзіць
Па беразе топкім за асакой.
Падаюць галасы
Ап’янёныя маем рапухі.
Неба быццам засыпана
Срэбнаю рыбнай луской,
Толькі хмары
З-над лесу
Нясуць навальніцу
Пад брухам.

У галінах, і ў лісцi,
І ў меднай чаканцы кары
Бачу звівы стагоддзяў —
І звівы вялізарных целаў.
Пэўна, цмокі лясныя,
Схаваўшыся, спяць да пары,

Спавіваючы кольцамі
Станы разложыстых дрэваў.

А па зморшчках кары
Пішуць мудрасць сваю мурашы:
«Мы выходзім з зямлі,
І ўсе некалі будзем — зямля».
Цмокі спяць, і ім сніцца,
Як побач спяшаюцца
Жыць
Секачы
І буслы,
Мурашы,
І рапухі,
І я.

## Кватэра 54

Многія гісторыі на гэтым свеце пачынаюцца банальна. Так і тут: быў хлопчык, была дзяўчынка. Здарылася ў іх — трохі не ў пару, але калі яно пра дарэчнасць пыталася — каханне.

Дзеля наступстваў кахання пабраліся адразу пасля выніковых іспытаў.

Дзеля будучыні кахання хлопчыкавы бацькі пайшлі на стратэгічныя размены: дзедаву трохпакаёвую на два і адзін пакоі ў розных раёнах.

— Маладым — жыць!..

Маладыя жылі: яна ў нейкіх сябровак, дзіця ў яе маці, ён — у блізкім замежжы, уладкаваны сваімі бацькамі ва ўніверсітэт.

Агульная будучыня стаяла замкнёная на ключ.

А пасля, здаецца, знайшлі квартарантаў.

## Хвалі ракі

Металічныя хмары, што ў хвалях ракі,
Ціха коцяць свае заімшэлыя спіны,
І здаецца, што наш паратунак адзіны —
Металічныя хмары, што ў хвалях ракі.

Крочыць дождж па засмужаным горадзе,
крочыць і плача,
Пакідаючы летапіс кропель на плітах —
Аб усім, што было і належыць Нябыту,
Аб усім, што ніяк немагчыма зыначыць.

Кожны дождж — гэта слёзы, пралітыя кімсьці
Па нязбытнае мары, па мёртвым каханні;
Нават росы на твары зялёнага рання —
Гэта слёзы, калісьці пралітыя кімсьці.

Металічныя хмары, што ў хвалях ракі
Былі сведкамі гэтых нязлічаных плачаў —
Аб усім, што, на жаль, немагчыма зыначыць, —
Металічныя хмары, што ў хвалях ракі.

І калі ты пад дождж падстаўляеш далоні,
Усміхаешся і нешта шэпчаш з даверам,
Помні: можа, сваёю ты ўласнаю мерай
Мерыш тысячы тысяч маленькіх любовей.

## *Кватэра 102*

Аддзяленне пошты тут жа, у двары. Раней можна было свабодна праходзіць праз службовыя дзверы, што, асабліва ў спёку, не зачыняліся. Па шэрым кафелі прабегчы — і ў зале, ля аднаго з акенцаў. Раскоша.

Цяпер часы іншыя, патрабаванні да бяспекі змяніліся, таму праз службовы ход абы-хто не пройдзе. Даводзіцца абыходзіць па вуліцы, ісці пад блакітную з белымі літарамі шыльду «Белпошты».

Пад шыльдаю — бо не сцярпець, не дайсці тыя дзвесце метраў да дома — выцягваю з каробачкі пасылкі падарунак. Ракавінкі да магніціка прыклееныя, адна да адной з душою прыладжаныя так, што атрымліваецца лёгкі брыг пад ветразямі.

У зваротным адрасе — «Нікалаеў, Украіна».

## **Вяртанне**

Пырскі салонай вады — зоры.
Праблiскамі напоўнена мора.

Ступіш на хвалю ціхаю ноччу —
І месяцоваю сцежкаю крочыш.

Пырскі салонай вады — чайкі.
Кружаць над морам,
стогнуць адчайна.
Белыя ветразі — белыя крылы:
Воблака ў небе ў здзіўленні застыла.

Пырскі салонай вады — слёзы?
Плачуць крывёй вінаградныя лозы.
Плачуць — але вяртаюцца ў дом
Не салонай вадой, а салодкім віном.

## *Кватэра 22*

Каты, калі ўцякаюць, заўжды бягуць наверх.

Прынамсі, наш кот заўжды бег наверх.

Выслізгваў, падшыванец, з адчыненых дзвярэй кватэры і сыпаў уверх па бетонных приступках, падкідваючы тоўстую дупку. Куды, нашто бег — з цёплага кута, ад місы, ад улюбёных падушак?

Чуў покліч свабоды — і не мог супраціўляцца.

Дні тры раз бадзяўся дзесь на гарышчы, не адгукаўся, калі шукалі і слёзна клікалі. Блукаў там, у пыле ды брудзе, за кратамі тэхнічнай лесвіцы для абслугоўвання ліфта.

Вяртаўся — з самым загадкавым выглядам.

Быццам там, у гулкай лесвічнай цемры пабачыў штосьці важнае і для нас, людзей, недасяжнае.

## Мухавец

Ах, як многа жыве
Незямной тугі
У цёмных звівах
Асенняй вады!
Завірыць бы ёй,
узняцца,
успеніцца б —
ды
закаваная ў берагі.

Аплятае трывала
сухі трыснёг,
сушыць горыччу
змрочны палын.
А зямлю колкі іней
Ужо аблёг,
Цяжка давіць
Нябёсная стынь.
Як тужліва,
са скаргаю
шэпча рака,

як уздыхае яна
ў паўсне…

Зачарпну вады,
намачыўшы рукаў, —
як магу,
суцешу яе.

## *Кватэра 3*

Варажылі звычайна, з самай раніцы збіраючыся з нагоды чыйгосьці дня нараджэння. Супадала так, што збольшага — у Ганькі. Апошнія — канікульна-вольныя — дні снежня, пераднавагоднія, ужо з цёмнымі яловымі лапамі ў куце, гірляндамі і маскамі, з кіславатымі (не адарвацца, пакуль кіло не з'ясі) мандарынамі.

Гаданне было простае: адчыніць дзверы кватэры (трошачкі), гукнуць у пад'езд сваё імя. І слухаць, амаль не дыхаючы і зябнучы на скразняку, удыхаючы водар марозу з футраў ды паліто на вешалцы. Слухаць.

Але чуваць звычайна толькі, як у краму, што на першым паверсе дома, прывезлі хлеб, і кіроўца, прахрупаўшы па снезе, грукае ў дзверы крамы і крычыць весела:

— Лю-у-удзі! Ау-у-у!..

# Варожба

Горкі палын
Набяры ў прыпол,
Пахкія руты лісткі.
Каменем цяжкім
Упадзе сакол
За зайцам
У мох сухі.

Зёлкі спалі,
а попел — развей
На скрыжаванні пустым.
Вецер закруціць,
Закружыць,
Але
Вернецца
Верны
Палын.

Сонца на досвітку грае.
Ляціць
Кліч
Напярэймы журбе
Рута й палын
Не будуць
Маніць —
Любага
Вернуць табе.

## *Кватэра 43*

На падваконнях ля смеццеправода выстаўлялі некалі асобныя рэчы. Калі нібыта і не патрэбна, а зусім выкінуць шкада.

Між чацвёртым і пятым з’яўляліся кансервы ды пустыя шкляныя збанкі — тым, хто любіць закотваць варэнне, самае яно. Вышэй, між шостым і сёмым, неяк выставілі дзіцячыя боцікі, ношаныя, але яшчэ добрыя.

Па-суседску: мне не прыдалося, а раптам каму спатрэбіцца?

Між другім і трэцім нехта пакінуў букет — раскошны, агромністы, з пышных чырвоных ружаў.

Не прыдаўся.

## **(Не)адказ**

А на вейках дрыжыць пытанне —
Не зададзенае яшчэ.
Не адлюбленыя каханні
Аніяк
Не разбіць ушчэнт.

Назаўжды ў адно спавіты
Непадзеленыя раней
Эпізоды з пражытых жыццяў
У крыжыванцы
З праяў і дзей.

Неадступны і непазбежны,
Крочыць толькі наперад час.
На такія пытанні, зрэшты,
Толькі ён і дае
адказ.

## *Кватэра 99*

Тут усё звыкла і нават не надта цікава.

Маці з бацькам хочуць, каб сын паступіў на эканаміста. Каб на банкаўскую справу і такое ўсё.

Сын хоча быць музыкам — і на гітары вечарамі практыкуецца, ажно па батарэях пачынаюць свой акампанемент суседзі.

Маці, пакуль караскаецца ўверх ліфт, голасна скардзіцца суседзям — маўляў, ну што ж такое, і хто толькі ўбіў гэтую дурасць маломy ў галаву. Нябось, не Моцарт. І ўвогуле, дзе вы бачылі шчаслівых музыкаў.

Забываецца, ахінутая клопатам, што яе сын — пакуль грае — шчаслівы.

## **Вуглі**

Скажуць:
«Гэтак было і будзе.
Будзь — як людзі.
Не узірайся ў зорныя высі.

Прыстасуйся.
Змірыся».

Скажуць:
«Рабі,
Як усе.
Так, як прынята.
Прамаўчы!
Хай перакіпяць
Словы
За вуснамі сцятымі.

Памагчы?
Вось табе —
Ніткі з іголкай.
Забіся ў куток
І зашый сабе рот
На золку».

Скажуць
Яшчэ і яшчэ.
А ты вушы рукамі прыкрыеш.
А ты словы чужыя з вачэй
Пад дажджамі вясновымі змыеш.

Ведай: слова часам
Можа сагрэць,
Як неастылыя вуглі
У прыску.
Захавай,

збeражы
сябе
тут,
каля самага сэрца
блізка.

## *Кватэра 15*

Калі вяртаешся дамоў позна вечарам, з вакна аўтобуса дзіўна паглядаць на квадрацікі святла на цёмных грамадах шматпавярховікаў. І думаць, што за жыццё зараз асвятляе пакоі. Мільгаюць блікі тэлевізараў, хтосьці таропка выключае святло на кухні, хтосьці з балкона свеціць агеньчыкамі цыгарэт, цягне доўгую размову паўшэптам.

І заўсёды сярод гэтых агнёў сумнавата бачыць вокны не асветленыя, пустыя. Гаспадароў няма: ці то не вярнуліся яшчэ з працы ці з адпачынку, ці то паспелі сысці — у краму, у госці, а мо і значна далей за зямныя дарогі.

І гэтых цёмных вакон сярод сузор'я агнёў заўжды — шкада.

## **Кола дзён**

Белы снег
На зямлю
Ляжа.

«Я цебе напаю», —
Скажа.
Белы свет,
Быццам снег,
Чысты,
Прарасце
У парастках,
У лісці.

Снег растане,
Паўстане —
Квецень.
Яблык у садзе,
Як сонца,
Свеціць.
Сонца голаў закружыць —
Аж млосна.

Падбірае
паданцы
восень.
Іней сцелецца,
срэбрам —
звяжа.
…белы снег
на зямлю
ляжа.

## *Кватэра 1*

Дзверы ў іх заўжды замкнёныя.

Але кватэра насупраць — жыве.

Збіраючыся раніцай сыходзіць, седзячы ў вітальні, краем вуха пачуеш асцярожны шоргат за сцяною. І скоціцца нешта па прыступках, быццам бы цераз дзве-тры паспешліва пераскокваючы. Пасля падасць голас дамафон, рыпнуць дзверы — і ціха. Увечары ж, калі ўсе ленавата збіраюцца пад абажурам піць чай, з’явяцца глухія крокі, і шоргат ключа ў замку, і ўспляск дзвярэй. І зноў цішыня.

Цішыня за сцяною зрэдку адгукаецца рэзкімі галасамі, ці вуркатаннем навінаў, ці сабачым брэхам. Але па-за гэтымі гукамі ды тымі крокамі-ўсплескамі на лесвічнай пляцоўцы — нічога. Нікога.

Цішыня па суседству.

## Цішыня

А дзень — сышоў.  
Разбіты небасхіл  
На шэры горад  
Шэры дождж праліў,

І той кашчавым пальцам  
Б’ецца ў шкло.

Паснуць бы,
Каб ад сэрца адлягло…

Меч — ваярам,
Карона – каралям,
Агонь у кузні — майстрам-кавалям;
Спачынак — стомленым:

Раскіне сон
Над ложкам
Каляровы парасон —
І знікне дождж,
І знікне вечны шум,
І цішыня агорне ўсю душу.

## *Кватэра 13*

Прыбягала часта — пазычаць соль, хлеб, таблеткі «ад галавы» і Бог ведае што яшчэ. Звонкім дзявочым галаском, стоячы ў драных тэпціках, пытала амаль радасна: а ў вас — ёсць?..

І за гэтым радасным пытаннем не дужа добра хавалася яшчэ адно, не агучанае. «А можна?» — значыцца, зайсці.

На кухні сядала, падціснуўшы ногі, на табурэт, піла гарбату з пузатага кубка. Забывала пра соль-хлеб-таблеткі, гаварыла — без радасці — пра штосьці сваё, набалелае. Вылівала па чайнай лы-

жачцы тое цяжкае, атрутнае, горкае, у апусцелы пузаты кубак з-пад гарбаты.

Можа, дзеля таго і прыходзіла.

## Пярэварацень

У душы маёй — брудныя лапы:
Яна шарыцца ў цемры і смецці,
Быццам воўк малады кашлаты,
Быццам цёплы паўднёвы вецер.

Дні заўсёды — нязбыўны цяжар.
Поўня ўзыдзе крывавым вокам —
І душа ля агню прыляжа
Танканогім нязграбным воўкам.

Ноч расколецца — і застыне,
Міма сны людскія пакрочаць.
Мне ў самоце між зданяў сініх
Застаецца хіба выць па-воўчы

Ды, прынюхваючыся да ценяў,
Водар лесу ўдыхаючы ёлкі,
Бегчы за імклівым аленем
Па зжаўцелых сасновых іголках.

## *Кватэра 92*

За акулярамі — вочы, разы ў тры павялічаныя. Складачка ля рота, сівенькія буклі. І сама ўся шэранькая, сівенькая, жвавая, як мышка, дарма што самой за семдзясят.

Жыццё вымярае ў мужах-нябожчыках:

— Гэтую кватэру калісь яшчэ з Васенькам набылі. Пасля з Сенечкам шпалеры клеілі, так смяяліся. А вось Пятро Дзмітрыч заўжды быў чалавек сур’ёзны, не да смешак яму было. Палічку бачылі? Ён, уласнымі рукамі.

У цеснай кватэры змрачнавата. Мужы-нябожчыкі сярдзіта глядзяць з фота: вісяць побач, ураўнаваныя ў правах.

Звонка перагукаюцца ў клетцы ля вакна папугайчыкі, шуміць за двайнымі рамамі праспект — паўнаводная рака жыцця.

Шуміць і нясецца міма.

## **Крэда**

Вера мая — знявер’е.
Белай паперы пер’е
Ліпне да рук, бы косы
Дажджоў сярэбравалосых.

Вера мая — надзея.
Простасці кветка — лілея —

Белая;
Хочаш — лісты
Шлі ў куродым густы.

Вера — мая слабасць.
Так надыходзіць сталасць,
Так ападае стыхія…
Зірнеш — валасы й сівыя.

## *Кватэра 25*

Маці яго, казалі, была настаўніцай ці бібліятэкаркай.

Далікатная, дабрадушная, выхаваная. Жылі ўдваіх: яна і сын. Сын паступіў быў, ды кінуў. Ажаніўся быў — і кінуў таксама. Ці — яго кінулі? Тут не так істотна, насамрэч. У выніку нягодаў стаў піць, пазычаў грошы, у каго толькі мог, цягаў да сябе п’яныя кампаніі. Маці даводзілася выбачацца часцей, і сяброўства з суседзямі пачало перарывацца, а вось з участковым давялося пазнаёміцца аж занадта блізка.

Пасля той, далікатнай, не стала. Засталіся сын і старая кватэра.

Па старой памяці ён яшчэ хадзіў па суседзях, прасіў — «да зарплаты», «да пераводу», проста «да заўтра», калі ўсё будзе добра, калі палепшае.

Тое заўтра, праўда, аніяк не наступала.

А пасля і сёння прайшло.

## Адна ноч

Ноч, як рыба, хапае ротам
Месяцовую светлаваду,
І ліхтар аднаногі гаротны
Раскудлачыў сваю бараду.

Задыхаецца ноч. Сыпле луской
Залацістае лісце на дол,
І, ашчадны па-беларуску,
Яго вецер складае ў прыпол.

Ноч канае, як рыба. Я, можа,
Усё былое пакіну ўбаку
І, празрыстую гладзь патрывожыўшы,
Адпушчу гэту рыбу ў раку.

## *Кватэра 120*

Пераязджаючы з месца на месца, штосьці пакідаеш за сабой. А нешта застаецца ўнутры. Пячаць. Памяць.

Тая памяць часта не паспявае прырастаць да новага месца, і ўночы, устаўшы папіць вады, слепа натыркаешся на вуглы або, наадварот, на вусцішную пустку там, дзе — як усё яшчэ памятае цела — мусіць быць сцяна.

І сніцца іншае, колішняе. Розум, сном скаваны, разумее, што нешта не так, намагаецца вы-

зваліцца, вырашыць вусцішную неадпаведнасць. Бо, нават не прачынаючыся, ведаеш: так не павінна быць — так болей быць не можа.

Прачынаешся, як бы вынырваючы з цёмнай вады, і доўга не можаш звыкнуць да столі над сабой, да палосаў святла, што прабіваюцца праз фіранкі, да колеру сценаў.

Да самога сябе — цяперашняга.

## Сны

Спляценням траў —
Няспраўджаныя сны,
Забытых слоў
Ды сцёртых дум прыбоі.
Рукою цвёрдай
Час суровы кроіць
Жаданых сненняў
Залатыя льны.

Спляценням траў —
Няспраўджаныя сны.
Яны жывуць
У сініх кветках тоі
І крочаць — разам з цемраю
Густою —
На небасхіл закураны
начны.

Пад іх хадой
Не здрыгануцца веі —
Спяць пад замком
Ці пад закляццем спяць?
А здані сноў
Анёламі ляцяць
Насустрач вечнасці
Праз зорныя завеі.

## *Кватэра 39*

Дом стаіць бокам да вуліцы. Іншыя вакол выцягваюцца ў адну лінію, роўненька, а гэты ўзбунтаваўся, стаў дубка.

Да пад’езда ад вуліцы, затопленай святлом ліхтароў, крокаў дзесяць. Тырчыць, хапае за плашч нешта калючае і сухое з кветніка, прабіваюцца праз вільготную зямлю нявысветленыя парасткі. Бабулька, што за кветнікам сочыць, падобна, гароднічае тут па прынцыпе «вырасла — і ладна». Што ёсць, тое ёсць.

З вакон над кветнікам часта вытыркаюць галовы. Дыхаюць, быццам цмокі-курыльшчыкі, цыгарэтным дымам ці проста ленавата, як каты, сочаць за вуліцай. Бліжэй да захаду гукі і цені становяцца гусцейшымі, і халаднаватае рэха коціцца па пад’ездзе ад крокаў.

Вечар.

## Вуліцы

Вуліцы часам здаюцца вужакамі.
Яны, абдымаючы сэрца Горада,
Паўзуць на сустрэчу з месірам Воландам
І світай ягонай — чорнымі фракамі.

Вуліцы ўмеюць сычэць па-змяінаму —
Тады, канечне, як ім захочацца,
Калі ліхтары пад цемраю скорчацца
Ці нават звычайнаю тлумнай гадзінаю.

Па вуліцах гэтых кашэчымі лапамі
Мякка ступае пяшчотны вечар
І мінакоў абдымае за плечы,
А некаторых па спіне драпае.

А калі іх папрасіць ласкава,
Вуліцы могуць расказваць казкі,
Смачнейшыя ад афрыканскай кавы, —
Прычым — проста так, за «калі ласка».

## *Кватэра 71*

У школу і дамоў хадзілі разам. Наўмысна не ехалі на аўтобусе тыя тры прыпынкі, а ішлі пехатою: цераз пярэстыя пешаходныя пераходы, цераз мост над чыгункай, над перасвістам цягнікоў, побач з бетоннаю агароджай завода.

Танканогая хлапечая постаць з’яўлялася роўненька, як па раскладзе, пад пад’ездам, дзявочыя крокі таропка збягалі ўніз, у халаднаватую раніцу.

І ўсе ведалі — ага, Кацьчын хлапец з’явіўся, значыць, палова на восьмую, трэба прыспешыцца, каб на працу не спазніцца.

А пасля, бліжэй да лета, постаць з’яўляцца перастала. Хто яго ведае, чаму. І дзявочыя крокі не беглі ўніз, а ссыпаліся мерна, стомлена.

— Аўтобусам-та хутчэй.

## Лета

Як па вуліцы крочыць лета,
Як у лета — зялёныя вочы,
Дый заплаканыя. Сонца, дзе ты?
Неба хмурнае дождж прарочыць.

А ў лета яблык у кішэні
П’янка пахне мёдам і лісцем.
Лета валіцца на калені,
І вішчыць, і смяецца йскрыста.

Лета коціцца па асфальце,
Аж пакуль на плячы не пакіне
Залацістым драбочкам смальты
Першы жоўты лісток жнівень.

## *Кватэра 7*

Калі доўга жывеш на адным месцы, пачынаеш адрозніваць людзей не толькі па галасах. І не толькі таму, што, скажам, у некаторых кватэрах тонкія сцены, і калі суседзі п’юць чай на кухні, адчуванне, быццам ты, у прыбіральні ўласнай, побач з імі сядзіш.

Не толькі галасы, але і хада, цені, якія мільгаюць на лесвіцы ўверх. Недакуркі або скамячаныя ўлёткі, грукат ад каляскі, што, пакрэхтваючы, спаўзае ўніз, кашаль, смех, — ды мала што.

Ведаеш іх — а яны, у сваю чаргу, цябе — па вось гэтых дробных рысачках, заўважных пры сумесным жыцці.

І часам трохі вусцішна думаць, якое ўражанне пакідаеш па сабе не сярод родных ды сяброў, а сярод вось гэтых, штодзённых, заўжды побач з табою прысутных людзей.

## Яблыкі

Ёсць яблыкі на самы дзіўны густ —
У веццi і, схаваныя, у траве.
Салодкія, і мяккія, і хрусткія —
І тыя, дзе ўнутры чарвяк жыве.

І кожны, хто свой даглядае сад,
Той ведае: тады ўраджай расце,

Калі сусед – твой сябар альбо брат —
Раздзеліць плён. Калі сад — для гасцей.

Гніюць плады і яблыняў, і дум,
Калі іх зберагаеш для сябе.
Ёсць — яблыкі. І смакі я знайду
Для ўсіх: хто ў радасці — і хто ў журбе.

## *Кватэра 84*

Ліфта няма, а падымацца высока — апошні паверх. Ды яшчэ сталінка: высокія столі, высокія прыступкі.

Пакуль дойдзеш, асабліва без звычкі — язык на плячы. Са звычкаю прасцей, нават і не зважаеш. Бяжыш уверх, увесь ува ўласных думках, і высокія прыступкі досыць хутка заканчваюцца.

З вакна бачны сквер, і ўночы цені ад дрэваў караскаюцца па столі, падсвечанай колам ад ліхтара. І калі глядзіш у паўсне на гэтыя цені, падаецца, быццам яны звіваюцца, калыхаюцца, як водарасці.

Закалыхваюць і цягнуць за сабою — скрозь час.

## **Салют**

Вішні яшчэ цвітуць.
Хочаш — бяжы ў сад,
туды, дзе пчаліны гуд,
дзе квецені майскай парад.

Як жыў толькі пяць зім,
вакол — таямніцы спрэс.
Мы разам сталеем з ім,
абое — і я, і Брэст.

Гучна грыміць салют,
у небе — пырскі агнёў.
Вясёлы гамоніць люд,
а мне — не стае слоў.

Што я? Балонік у руцэ
ды дробны кірпаты нос.
А ў небе агонь цячэ,
І выбухі вецер прынёс.

І вусціш, і радасць у грудзях.
Не, колькі б ні мінула зім,
мы ўсё яшчэ там — Брэст і я —
і разам салюты глядзім.

## *Кватэра 100*

Кніжныя шафы падобныя да гарадскіх шматпавярховікаў.

Пад адным дахам на паліцах — многа-многа дзвярэй у непадобныя маленькія (і не вельмі) светы. Адчыні дзверы — разгарні кнігу — і руш.

Я люблю іх, гэтыя дзверы ў новыя светы. Розныя, непадобныя адна да адной. З вокладкамі,

шурпатымі або гладкімі пад пальцамі, з асаблівым колерам старонак, з асаблівым водарам.

Таксама — суседзі. Зусім побач. Свае.

Збіраць адну новую шафу прыходзіў майстар, бадзёры мужчына сярэдняга веку. Весела страляючы вочкамі, спытаў, ці ёсць дома кнігі:

— Пад дэталі, значыць, падкласці, каб вуглы раўнейшыя выйшлі.

— Кнігі — ёсць. Але, — па складах, — не для та-го!

## Кніжныя дзеці

«…жили книжные дети, не знавшие битв…»
Ул. Высоцкі

Я паходжу са сціплага племені
«кніжных дзяцей»,
што раслі на асфальце, далёкія ад грымот.
Кніжны пыл працінаў нас,
уядаючыся да касцей,
калі нас зацягвала вірам чужых прыгод.

У жылах нашых цячэ
з чарнілам змяшаная кроў,
І на свет мы глядзім праз старонкі пажоўклыя кніг;
сэрцы нашыя
б’юцца ў рытме
адвечных радкоў,
быццам рэхам гукаючыся на іх.

Гэта «кніжныя дзеці» ўрастаюць хрыбтамі ў сталь
Хвосткіх рыфмаў, як зерне ўрастае ў раллю,
Гэта «кніжныя дзеці» ўзводзяць на п’едэстал
Тых, хто піша,
І тых, хто калісь пісаў
Пра адну,
Адзіную
Вечную
Нашу зямлю.

І мне цяжка думаць, што, можа быць, прыйдзе час,
калі згубіцца гэтакі лад у жыцці.
І калі, згадаўшы ў жывой размове пра нас,
прыпячатаюць «кніжных» —
маўляў, рэлікт.

Нам забыцца на Слова —
горш, чым пазбыцца жыцця:
я паходжу са сціплага племені «кніжных дзяцей».
І, узняўшы да неба свой папяровы сцяг,
я шукаю вачыма дарогі былой працяг,

я працягваю рукі да тых,
хто са мной ідзе.

***Наш дом там, дзе сэрца. Праўда ж?***

*Для Вас, з любоўю,*
*М.*

*Літаратурна-мастацкае выданне*

Бібліятэка Мінскага гарадскога аддзялення
Саюза пісьменнікаў Беларусі

**Латышкевіч** Маргарыта Юр’еўна

# Там,
# дзе сэрца

*Вершы, проза*

Адказны за выпуск *А. С. Пацей*
Мастак *В. С. Дзяткова*
Рэдактар *М. П. Пазнякоў*
Камп’ютарная вёрстка *К. А. Шышкіна*

Падпісана да друку 03.01.2020. Фармат 60x84/32.
Папера афсетная. Друк лічбавы. Ум. друк. арк. 2,55 укл.
Ул.-выд. арк. 1,47 укл. Наклад 60 асоб. Замова 17625.

16+

Выдавец і паліграфічнае выкананне:
таварыства з абмежаванай адказнасцю «Колорград».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюджвальніка друкаваных выданняў
№ 1/471 ад 28.07.2015.

Зав. Веласіпедны, 5-904, 220033, Мінск
www.сегмент.бел